**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 38 (754) 18 верасня 2014 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае



**Глыбокае. Сустрэча ўдзельнікаў Велапрабегу Саюзнай Дзяржавы. Хлеб-соль – гасцям са Смаленска.**

**16 верасня, пры ўездзе ў горад, ля самалёта-помніка СУ-17, Глыбокае прымала Велапрабег Саюзнай Дзяржавы "Моладзь Расіі і Беларусі – дарога ў будучыню Саюзнай Дзяржавы", які прымеркаваны да 70-х угодкаў Вялікай Перамогі. Велапрабег доўжыўся з 11 па 17 верасня. Ён праходзіў па маршруце: Смаленск (11.09-11.09) – Дзямідаў (11.09-12.09) – Вяліж (12.09) – Вялікія Лукі (12.09-13.09) – Невель (13.09-14.09) – Гарадок (14.09) – Віцебск (14.09-15.09) – Орша (15.09-16.09) – Глыбокае (16.09-17.09) – Мінск (Курган Славы, 17.09).**

У акцыі бралі ўдзел лідары моладзевых грамадскіх арганізацый, маладыя навукоўцы, выкладчыкі і студэнты навучальных устаноў. Усяго ў велапрабегу паўдзельнічалі 60 чалавек з Расіі і Беларусі. Ганаровымі гасцямі афіцыйных мерапрыемстваў сталі дэпутаты Парламенцкага сходу Аляксей Казакоў ад Расіі і Мікалай Казаравец ад Беларусі.

У Глыбокім удзельнікаў велапрабегу чакала вялікая культурніцкая праграма: мітынг, ускладанне вянкоў да помніка воінам-вызваліцелям ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у гады Вялікай Айчыннай вайны; экскурсія па горадзе; наведванне гісторыка-этнаграфічнага музея; майстар-клас па нацыянальных рамесных промыслах; экскурсія па культурна-дэндралагічным комплексе вёскі Мосар; фаершоў. Увечары, а 23.30 – салют.

*Уладзімір Скрабатун.*

Мёрскі раён

## Падарункі да юбілею

■ Станіслаў Раманчук

**Апошнім часам у глыбінцы ў лепшы бок змяніліся многія населеныя пункты, ад райцэнтраў да гарпасёлкаў і аграгарадкоў.**

Таксама папрыгажэлі і быццам памаладзелі Мёры, якія да свайго 500-годдзя пачалі рыхтавацца яшчэ некалькі гадоў назад. З усяго запланавага па добраўпрадкаванні райцэнтра з насельніцтвам крыху больш 8 тысяч чалавек не ўдалося сёлета адкрыць толькі новую райбальніцу, здача якой у эксплуатацыю будзе ў 2015 годзе. Сваю назву былое мястэчка-сядзіба ваяводы Івана Сапегі атрымала яшчэ ў часы Вялікага княства Літоўскага, хоць статус горада займела толькі за савецкім часам. Рыхтуючыся да юбілею, тут і сёлета высадзілі звыш 30 тысяч кветак, набылі 50 раслін для папулярных зімовых клумб. У маладым горадзе таксама пабудавалі прыгожы новы мікраён з сямі шматпавярховак, пабудавалі новы ФАК і будынак “Белдзяржстраху”. Радуе жыхароў, што абнавіліся гандлёвыя цэнтры, цэнтральны рынак, гасцініца, стадыён і спарткомплекс “Атлант”, вельмі прыгожай стала тэрыторыя ля Успенскага касцёла, з’явіўся і магазін папулярнай сеткі “Еўраопт”. Раней бядой краю былі вялізныя балоты плошчай больш 32 тысяч гектараў. А цяпер гідралагічны заказнік “Ельня” вядомы ў Еўропе, там пабудавалі экалагічную дарожку сярод балота даўжынёй пад 2 км. У раёне з дзіўнай прыродай дзейнічаюць ужо 34 аграсядзібы, у дзіцячым санаторыі з’явіўся новы корпус. Самі ж юбілейныя ўрачыстасці ў Мёрах доўжыліся некалькі дзён не толькі ў зоне адпачынку “Паўвостраў”, але і на стадыёне, а гала-канцэрт упершыню адбыўся на цэнтральнай плошчы.

Шаркоўшчынскі раён

## Слова будзе заўсёды

■ Чэслаў Якубовіч

**Са старажытных часоў людзі рознымі спосабамі дзяліліся сваімі думкамі з іншымі, пакуль не з’явілася пісьменнасць і друкаванае слова.**

На чарговым XXI свяце з нагоды Дня беларускага пісьменства ў адным са старэйшых гарадоў краіны Заслаўі была і дэлегацыя з Шаркоўшчынскага раёна. Туды мясцовыя творцы, прыхільнікі духоўнасці і натхнёнага мастацкага слова паехалі з добрым настроем і былі ўражаны ўбачаным падчас двух выхадных. Усім спадабаўся адкрыты помнік князю Ізяславу і новы дзіцячы парк культуры, выстава навінак беларускіх выдавецтваў і іншыя мерапрыемствы ўрачыстасцей. Падчас Дня беларускага пісьменства назвалі і прозвішчы пераможцаў конкурсу на лепшы літаратурны твор года. На галоўную сцэну свята запрасілі спачатку літаратара з Шаркаўшчыны Міледзія Кукуця. Ён стаў адным з пераможцаў Рэспубліканскага конкурсу “Лепшы твор 2013 года ў намінацыі “Проза” і атрымаў дыплом другой ступені. Такую высокую адзнаку заслужыла яго таленавіта напісаная аповесць “На сёмым небе”, у якой чытачы даведваюцца пра службу маладых хлопцаў у паветрана-дэсантных войсках. Яшчэ адну ўзнагароду атрымала мясцовая паэтэса, сябар раённага літаратурна-музычнага аб’яднання “Світанак” Кацярына Сосна. Яе адзначыла Ганаровай граматай Міністэрства інфармацыі Беларусі за актыўны ўдзел у акцыі “Лета з добрай кнігай”. “Світанкаўцы” летам пабывалі ў Радзюкоўскай БШ, у Лужках прэзентавалі кнігу Васіля Стомы “Маё мястэчка”, удзельнічалі ў краязнаўчай канферэнцыі ў Германавічах, на свяце паэзіі ў Ляўках. Дарэчы, літаратары Прыдзвіння штогод ушаноўваюцца на гэтым свяце пісьменства, якое ў розныя гады прымалі Орша, Паставы, Глыбокае і двойчы Полацк.

Пастаўскі раён

## Новы трафей для музея

■ Кастусь Александровіч

**Вось ужо некалькі гадоў адным з вядучых цэнтраў развіцця дзіцячага і юнацкага футбола ў Беларусі сталі Паставы.**

Невыпадкова там на прыватным мэблевым цэнтры стварылі і футбольную акадэмію еўрапейскага ўзроўню з уласным інтэрнатам, выдатнай базай для падрыхтоўкі, куды імкнуцца патрапіць ужо самыя здольныя юнакі з розных куткоў краіны. Пры акадэміі ў адным з пакояў будзе музей, куды днямі даставілі новы экспанат – прыгожы Кубак за перамогу каманды юных пастаўчан у фінале рэспубліканскіх спаборніцтваў сярод дзяцей і падлеткаў “Скураны мяч” у сярэдняй узроставай групе. Турнір праходзіў некалькі дзён у Жлобіне, дзе каманда з Пастаў выйграла ўсе матчы і заваявала залатыя медалі, дыпломы, а кожны з хлопчыкаў прывёз дамоў яшчэ і паменшаную копію Кубка для пераможцаў. Праз год у Паставах ужо ў другі раз адбудзецца рэспубліканскі турнір, а ў 2007 годзе юныя пастаўчане дома ўпершыню заваявалі “бронзу”. З таго складу каманды цяпер хлопцы падраслі, шэраг з іх ужо гуляюць у вядучых беларускіх футбольных клубах, а Міхаіл Бабічаў пасля казанскага “Рубіна” прадоўжыў кар’еру ў італьянскім клубе “Крас”. Адзін з сёлетніх лепшых выпускнікоў футбольнай акадэміі ПМЦ нападаючы Ільля Кухарчык прыняты ў барысаўскі БАТЭ і будзе гуляць у маладзёжным турніры прэстыжнай Лігі чэмпіёнаў УЕФА. Пры такіх выдатных адносінах да дзяцей і іншых таленавітых маладых ігракоў чакае добрая будучыня ў спорце высокага ўзроўню.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 18.09.14 | | | | Пятніца 19.09.14 | | | | Субота 20.09.14 | | | | Нядзеля 21.09.14 | | | | Пн.22.09. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +6 | +10 | +18 | +9 | +6 | +9 | +17 | +8 | +7 | +10 | +18 | +9 | +5 | +10 | +19 | +10 | +9 | +11 | +15 |
| Ціск | 757 | 758 | 757 | 756 | 756 | 756 | 754 | 753 | 751 | 751 | 750 | 749 | 748 | 749 | 747 | 746 | 745 | 744 | 741 |
| Вільготнасць | 95 | 88 | 53 | 86 | 93 | 85 | 48 | 81 | 84 | 85 | 55 | 86 | 98 | 95 | 60 | 96 | 99 | 100 | 71 |
| Вецер м/сек | 1 Ю | 3 Ю-В | 3 Ю-В | 2 Ю-В | 3 Ю | 3 Ю-В | 4 Ю | 2 Ю-В | 2 Ю-В | 3 Ю | 3 Ю | 3 Ю | 3 Ю-З | 2 Ю-З | 4 З | 3 С-З | 3 С-З | 1 З | 4 З |

# Аб самым надзённым

## НАВАТ КРЫХУ ПАВЫСІЦЬ ЗАРОБКІ МЕДЫКАМ І НАСТАЎНІКАМ СТАНОВІЦЦА СКЛАДАНАЙ ЗАДАЧАЙ У РЭГІЁНАХ БЕЛАРУСІ

■ Аляксандр Цішкевіч

**І ўвогуле многае ў цяперашнім жыцці незразумела: пачалі падаць сусветныя цэны на нафту, але для беларусаў у каторы раз выраслі кошты запраўкі іх машын. Таксама зноў паднялі акцызы на 10-30 % на алкаголь і тытунёвыя вырабы, з якіх фарміруецца львіная доля дзяржбюджэту.**

Усё бліжэй у нашай краіне да чарговых прэзідэнцкіх выбараў, якія адбудуцца, хутчэй усяго, напрыканцы будучага 2015 года. Канешне, беларускаму кіраўніцтву хацелася б, каб напярэдадні гэтай значнай падзеі справы ў айчыннай эканоміцы ішлі нядрэнна, назіраўся пэўны ўздым і рост дабрабыту суайчыннікаў. Як ніяк, хто не забыўся, улада перад папярэдняй выбарчай кампаніяй абяцала беларусам у канцы наступнай пяцігодкі, што яны будуць зарабляць нават 1000 долараў.

На справе з гэтай задумкі выйшла няўвязка, бо сёлета ў сярэдзіне лета сярэдняя зарплата па краіне крыху перавышала 6 млн. рублёў, а найгоршыя паказчыкі былі менавіта ў нас на Віцебшчыне. Да таго ж і на наступны рашаючы год пяцігодкі такі рост заробкаў беларусаў запланавалі зусім нязначны – усяго 658,8 USD у эквіваленце. Не сакрэт, што такія зарплаты маюць лічаныя беларускія рэгіёны, найперш сталіца, а таксама Салігорск, Жлобін, Наваполацк, Гродна. Больш таго ў гэтым годзе ў сувязі з драматычнымі падзямі вакол Расіі з Украінай рост айчыннай эканомікі будзе практычна нулявы. Эксперты прагназуюць, што і налета нам спатрэбяцца зноў значныя знешнія пазыкі, інакш пазбегнуць вострага крызісу 2011-2012 гадоў можа не ўдасца.

Ды і ў будучым годзе Беларусі патрэбна недзе адшукаць яшчэ 4 млрд. долараў, якія пойдуць на абслугоўванне і пагашэнне свайго знешняга доўгу. Сур’ёзныя патрэбныя рынкавыя рэформы ў нас увесь час адкладваюцца. Праўда, па адным паказчыку беларусы не маюць сабе роўных на постсавецкай прасторы і на еўрапейскім кантыненце. Многія з вас, напэўна, здагадаліся, што гаворка ідзе пра бесперапынны рост цэн з інфляцыяй за 7 месяцаў года 11,1 % (аднак сёлета нас крыху абагналі ўкраінцы з-за вайны на Данбасе). Дарэчы, летась на гэты час інфляцыя ў нас была яшчэ большай – 21 %.

Атрымоўваецца, што ўзровень жыцця многіх жыхароў глыбінкі і работнікаў бюджэтных установ застаецца даволі нізкім. Яны дагэтуль зараблялі амаль у 2 разы меней, чым была сярэдняя зарплата па Беларусі. У выніку беларускае кіраўніцтва вырашыла ў пачатку восені крыху парадаваць сацыяльна слаба абароненыя слаі грамадства – медыкаў і педагогаў школ. Першым прадугледзілі павышэнне тарыфных ставак і зарплат на 30-60 % ад санітарак, медсёстраў да ўчастковых тэрапеўтаў, педыятраў і ўрачоў агульнай практыкі. Як вядома, надбаўкі настаўнікам, выхавальнікам дзіцячых садкоў, нават поварам і работнікам школьных сталовых цяпер павысілі на сумы ад 153 да 967 тысяч рублёў у залежнасці ад катэгорыі і іх кваліфікацыі.

На практыцы атрымалася нямаленькая сума, нават у сельскім раёне сярэдняга памеру да канца года ў бюджэце неабходна адшукаць на павышэнне заробкаў да 5 і болей млрд. рублёў. Гэта хоць часткова дапаможа павялічыць жыццёвы дабрабыт і прэстыж працы ў сацыяльна важнай сферы дзейнасці. Аднак фінансісты на месцах хапаюцца за галовы, адкуль браць такія дадатковыя сродкі. Нават на ўзроўні асобных абласцей краіны (якіх галоўная газета краіны “СБ. Беларусь сегодня” не назвала) б’юць трывогу, просяць дапамогу з рэспубліканскага бюджэту, каб вырашыць праблему.

Аднак здзіўляцца гэтаму не выпадае, бо такая цяпер сітуацыя ў беларускай эканоміцы. Ужо ў першай палове гэтага года, па дадзеных Міністэрства эканомікі Беларусі, істотна пагоршыўся фінансавы стан айчынных прадпрыемстваў. Калі летась па выніках працы за паўгода працавалі са стратамі 684 нашы фабрыкі і заводы, то сёлета ў студзені-чэрвені колькасць гаротнікаў дасягнула ўжо 1186 суб’ектаў гаспадарання. Іх агульныя страты амаль падвоіліся і дасягнулі 7,24 трл. рублёў. На беларускую прадукцыю зніжаецца попыт, расце крызіс узаемных неплацяжоў за тавары і паслугі, на разліковых рахунках асабліва многіх нашых калгасаў пуста. У рэгіёнах дрэнна ідуць плацяжы ў Пенсійны фонд, не выплочваюцца падаткі, не аплочваюцца спажытая электраэнергія і газ.

Адным словам, кульгае наша эканоміка, многія ледзь-ледзь зводзяць канцы з канцамі. Да прыкладу, у адной з самых моцных Брэсцкай вобласці сёлета ў рэжыме няпоўнай занятасці працавалі ўжо 5 % рабочых і служачых. У гэтым прыгранічным рэгіёне, удумайцеся, штодзень не працавалі амаль 1,5 тысячы чалавек, многія былі вымушаны браць водпускі за свой кошт без усялякай аплаты. Іншым проста паведамлялі, што вымушаны пераходзіць на работу 3-4 дні на тыдзень, калі і заробкі змяншаліся.

Тым не менш беларускі лідар прапанаваў павысіць стаўку падаходнага падатку да 13 %, а сабраныя дадатковыя сродкі накіраваць на падтрымку шматдзетных сем’яў. Праўда, пры цяперашнім узроўні цэн у нас і аднаго дзіця выгадаваць няпроста. І ўвогуле многае ў цяперашнім жыцці незразумела: пачалі падаць сусветныя цэны на нафту, але для беларусаў у каторы раз выраслі кошты запраўкі іх машын. Таксама зноў паднялі акцызы на 10-30 % на алкаголь і тытунёвыя вырабы, з якіх фарміруецца львіная доля дзяржбюджэту. Хто шмат курыць і п’е, пэўным чынам дапаможа ваенным, якім павысілі заробкі ў сярэднім на 17 % і адпаведна пенсіі былым людзям у пагонах.

## Дзень за днём

**А.Лукашэнка вырашыў стварыць паўнавартасную дзяржграніцу на мяжы з Расіяй. Урад Беларусі павысіў гадавы прагноз па інфляцыі з 11 да 17,3 %. З трэцяй спробы прадстаўнікі Украіны і сепаратыстаў Данбаса падпісалі ў Мінску пратакол аб спыненні баявых дзеянняў. Аб'ёмы крэдытавання будаўніцтва жылля беларусамі скараціліся на 18 %. Кандыдатаў на пасады кіраўнікоў сельгаспрадпрыемстваў станучыць адбіраць і рыхтаваць у перадавых гаспадарках краіны. Для тэлеканала "Белсат" забарона ягонай назвы Вярхоўным судом Беларусі нічога не значыць, бо ён не вядзе ніякай дзейнасці на беларускай тэрыторыі. У Мінску да канца года адкрыюцца яшчэ пяць гіпермаркетаў.**

# Важнейшыя навіны свету

**Расія.** Кіраўнік Цэнтра стратэгічных даследванняў МГУ У. Квінт папярэдзіў, што да 2017 года РФ чакаюць сур'ёзныя цяжкасці ў эканоміцы з-за перакосаў у планах развіцця.

**Францыя.** З-за агрэсіі Расіі ў Данбасе ўрад краіны вырашыў не пастаўляць у тэрмін да 1 лістапада ў порт Санкт-Пецербурга першы з двух верталётаносцаў "Уладзівасток".

**Уэльс.** Пасля саміта НАТО прэзідэнт Украіны П. Парашэнка паведаміў, што альянс паставіць украінцам у рамках ваеннага супрацоўніцтва і высокадакладную зброю.

**Украіна.** Па надуманых прычынах Расспажыўнагляд забараніў пастаўкі ўкраінскіх кандытарскіх вырабаў, раней па забарону трапілі алей, кансервы, сала, малако, гарэлка.

**Расія.** З-за абвастрэння адносін з Захадам канцэрн "АўтаВАЗ" да канца года звольніць яшчэ 2,2 тысячы чалавек, вясной тут пазбавіліся працы 1500 супрацоўнікаў.

**Эстонія.** Большасць жыхароў краіны парадаваў і супакоіў візіт прэзідэнта ЗША, эстонцы адчуваюць сябе надрэнна ў складзе ЕС і НАТО на фоне падзей у Крыме і ў Данбасе.

**Швейцарыя.** Даследванні спецыялістаў Сусветнай арганізацыі аховы здароўя за апошнія 10 гадоў выявілі, што кожныя 40 секунд у свеце адбываецца адно самазабойства людзей.

**Літва.** У адной з бальніц Вільнюса праз 2 дні пасля інсульта памёр на 91-м годзе жыцця знакаміты кінаакцёр і тэатральны рэжысёр, народны артыст СССР Данатас Баніёніс.

**Расія.** Неспадзявана "Першы канал" паказаў сюжэт пра факты гібелі рускіх дэсантнікаў ва Украіне, увесь час улады краіны адмаўляюць, што іх ваенныя там ваююць за "Наваросію".

**Эстонія.** Прама з мытнага паста расійская ФСБ у ходзе рэйда праз граніцу скрала афіцэра спецслужб краіны Эстана Кохвера, перавезла ў Маскву і прадставіла "шпіёнам".

**Бразілія.** Міністр эканомікі Гвідо Мантэга прызнаў, што прайшоўшы летам чэмпіянат свету па футболе нічога не даў краіне і прывёў толькі да эканамічнага спаду.

**Германія.** На буйнейшай у свеце выставе электронікі IFA ў Берліне заключылі здзелак на 4 мільярда еўра, асабліва расце попыт на бытавую тэхніку і прыборы з выхадам у Інтэрнет.

**Расія.** Судовыя пристаўы арыштавалі маёмасць адзінага апазіцыйнага дэпутата Дзярждумы РФ Ільі Панамарова, падчас водпуску паехаў у ЗША і вымушаны там застацца

**Англія.** У Кнігу рэкордаў Гінеса занеслі імя баснійскага 27-гадовага варатара А. Бегавіча, які забіў гол з самай далёкай у свеце адлегласці 91 метр да варот саперніка.

**Расія.** Папулярны пісьменнік і вучоны Барыс Акунін заявіў, што пакідае пуцінскую Расію, якая страчвае розум і дзе адбылося новаўтварэнне фашызму, рускіх чакаюць беды.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Пасля ўвядзення Расіяй эмбарга на тавары Захаду прыбыткі Беларускай асацыяцыі міжнародных аўтаперавозчыкаў (1700 фур-рэфрэжэратараў) знізіліся адразу на 50 %.

**Барысаў.** Аўтазавод СЗАТ "БелДЖЫ" праз свайго партнёра прадставіў на аўтасалоне ў Маскве свае 4 новыя кітайскія машыны, з іх дзве пачнуць выпускаць ужо ў 2015 годзе.

**Гомель.** Услед за адстаўкай начальніка УКДБ вобласці А. Лукашэнка звольніў і начальніка міліцыі генерала В. Палішчука пасля серыі гучных крымінальных спраў.

**Рэчыца.** Упершыню ў Беларусі пачалі прамысловую здабычу да 20 тон нафты ў суткі са шчыльных парод са свідравіны з запасамі да 700 тысяч тон "чорнага золата".

**Магілёў.** Пасля абрушэння часткі будынка гімназіі ў Крычаве па вобласці патрапілі пад падазрэнне яшчэ 9 школ, пабудаваных савецкім часам па адным тыпавым праекце.

**Карма.** Магілёўскі фермер А. Паўлоўскі пасля продажу на рынку сваёй прадукцыі сабраў за 2 дні 138 подпісаў і адправіў поштай з заклікам да У. Пуціна спыніць вайну ў Данбасе.

**Мінск.** Начальнік упраўлення Міністэрства эканомікі РБ Р. Бродаў пацвердзіў, што попыт на беларускую прадукцыю ва Украіне захаваўся, нягледзячы на ўсе працэсы, што адбываюцца там.

**Пінск.** На абласных "Дажынках" адкрылі помнік хлебу, дызайн якога прыдумаў кіраўнік Брэсцкай вобласці К. Сумар, незадаволены эскізамі іншых прафесійных скульптараў.

**Шклоў.** З дазволу А. Лукашэнкі айчынны алігарх Павел Тапузідзіс у райцэнтры пабудуе гіпермаркет і ў кожным аграгарадку раёна сучасныя гандлёвыя цэнтры для вяскоўцаў.

**Мінск.** У сувязі з недахопам работнікаў сталічныя ЖЭСы і ЖРЭУ сталі браць на працу дворнікаў на няпоўную занятасць, вакансіі папулярныя ў студэнтаў, заробкі да 2 млн.

**Івацэвічы.** За злоўжыванне ўладай суд пакараў былога першага намесніка старшыні райвыканкама В. Радкаўца 4 гадамі пазбаўлення волі з адтэрміноўкай прыгавора.

**Мінск.** Па стану здароўя адправілі ў адстаўку намесніка камандуючага ўнутранымі войскамі МУС Беларусі па тылу патомнага вайскоўца, палкоўніка Уладзіміра Сямёнава.

**Светлагорск.** У прыступе рэўнасці 19-гадовы хлопец-баксёр моцна збіў дзяўчыну (ёй пагражае калецтва), а потым прымусіў яе са знаёмым усю ноч стаяць на каленях.

**Лунінец.** У вельмі цяжкім стане з ацёкам галаўнога мозгу патрапіў у рэанімацыю райбальніцы і памёр 30-гадовы варатар клуба 1-й лігі "Хваля" (Пінск) Мікалай Адамец.

**Брэст.** Мясцовы гандбольны клуб імя Мяшкова праз 6 гадоў зноў прабіўся гуляць у групавы этап прэстыжнай Лігі чэмпіёнаў ЕГФ з мацнейшымі камандамі Еўропы.

## У Беларусі плануецца прадаваць жыллё ў лізінг



**■ Кацярына Марковіч, БЕЛТА**

**У Беларусі плануецца прадаваць жыллё ў лізінг. Такая норма прадугледжана ў праекце закона «Аб унясенні дапаўненняў і змяненняў у Грамадзянскі кодэкс Рэспублікі Беларусь», паведаміў карэспандэнту БЕЛТА намеснік старшыні Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу па бюджэце і фінансах Уладзімір Шыцько.**

«Норма, якая змяшчаецца ў гэтым праекце закона, дазволіць даць грамадзянам Беларусі магчымасць выкарыстоўваць механізм лізінгу для набыцця маёмасці, напрыклад, жылля, аўтамабіляў, бытавой тэхнікі і гэтак далей. Раней такая паслуга была даступная толькі фізічным асобам, якія ажыццяўляюць прадпрымальніцкую дзейнасць», - адзначыў дэпутат.

На яго думку, гэтая магчымасць дазволіць шматлікім вырашыць сваё кватэрнае пытанне. "Не кожны можа са адзін раз выплаціць ўвесь кошт жылля. Каб набыць нерухомасць у лізінг, дастаткова спачатку ўнесці пэўную суму ад агульнай кошту купляемай маёмасці, звычайна яна не ніжэй 25-30%, а затым штомесяц ажыццяўляць выплаты ў памерах, прадугледжаных дамовай з лізінгадаўцам»,- растлумачыў Уладзімір Шыцько. Тэрмін, за які неабходна выплаціць кошт маёмасці цалкам, таксама будзе вызначацца ўмовамі дамовы з лізінгадаўцам.

У праекце закона прадугледжана, што лізінгадаўца мае права выкарыстоўваць прадмет лізінгу ў якасці прадмета залогу для забеспячэння выканання абавязацельстваў па заключаным дагаворы.

Уладзімір Шыцько паведаміў, што лізінгавую дзейнасць змогуць ажыццяўляць лізінгавыя арганізацыі, уключаныя ў рэестр такіх арганізацый, а таксама юрыдычныя асобы і індывідуальныя прадпрымальнікі без уключэння ў гэты рэестр. «Такім чынам, калі ІІІ займаецца рэалізацыяй, напрыклад, складанай бытавой тэхнікі, ён таксама зможа прадаваць яе ў лізінг. Пры гэтым ні індывідуальныя прадпрымальнікі, ні лізінгавыя арганізацыі, не павінны гэтага рабіць у абавязковым парадку, а толькі па ўласным жаданні. Напрыклад, калі вытворца або прадавец будзе бачыць, што ў яго паўсталі складанасці з продажам, то частка тавару ён можа рэалізаваць у лізінг. Калі ў забудоўшчыка гатовых куплячь кватэры за поўны кошт, то яму няма чаго выкарыстоўваць лізінгавыя механізмы. У дадзеным выпадку рынак будзе дыктаваць ўмовы працы », - сказаў ён.

Парламентарый лічыць, што паўнавартаснае ўкараненне лізінгу для фізічных асоб знізіць нагрузку на банкаўскую сістэму па крэдытаванні эканомікі. На яго думку, набыццё грамадзянамі нерухомасці і прадметаў працяглага карыстання на ўмовах лізінгу можа стаць альтэрнатыўнай крыніцай задавальнення попыту насельніцтва на доўгатэрміновае фінансаванне. «Калі лізінг запрацуе ў поўным аб'ёме, у банкаў з'явіцца магчымасць паменшыць крэдытаванне грамадзян. Таксама праз лізінг больш інтэнсіўна будзе рэалізоўвацца прадукцыя айчынных вытворцаў, знізіцца складскія запасы, з'явіцца магчымасць цалкам загрузіць вытворчыя магутнасці прадпрыемстваў, такім чынам знізіцца іх патрэбу ў банкаўскіх крэдытах»,- адзначыў Уладзімір Шыцько.

Праект закона распрацаваны ў адпаведнасці з указам ад 25 лютага 2014 №99 «Аб пытаннях рэгулявання лізінгавай дзейнасці». Дакумент будзе разгледжаны на восеньскай сесіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** У большасці раёнаў вобласці няма сродкаў на выплату павышаных зарплат настаўнікам і медыкам, без падтрымкі зверху фінансамі праблему заработнай платы не вырашыць.

**Паставы.** Мясцовы малочны завод заключыў кантракт і пачаў закупкі малака ў суседняй Літве, што дазволіць болей вырабляць сыроў, якіх у жніўні прадалі ў Расію 515 тон.

**Лёзна.** Украінская фірма "Дрогеры-Бел" практычна поўнасцю пабудавала ў раённым цэнтры прадпрыемства па выпуску касметыкі, засталіся толькі вентыляцыя і пажарная сігналізацыя.

**Лепель.** З-за лопнуўшага аднаго з колаў фуры 56-гадовы польскі вадзіцель выехаў на сустрэчную паласу на трасе Мінск-Віцебск і забіў у ДТЗ 41-гадовага рускага на "Тайоце".

**Верхнядзвінск.** З дапамогай мясцовага жыхара паблізу латвійскай граніцы пагранічнікі затрымалі двух грамадзян В'етнама, яшчэ пяць нелегалаў потым - іх калегі з Латвіі.

**Глыбокае.** Услед за рэканструкцыяй вуліцы Будаўнікоў ля СШ № 3 правялі капітальны рамонт вуліцы Школьнай з асфальтаваннем тратуараў і пракладкай ліўнёвай каналізацыі.

**Браслаў.** Раённы цэнтр упрыгожыў новы сімвал – гіганцкія буквы з падсветкай ноччу над возерам Дрывяты "Браслаў", падобныя на выяву Галівуда ў Лос-Анджэлесе.

**Шаркаўшчына.** У лясным масіве за вёскай Дзікава загінуў 79-гадовы пенсіянер, які пайшоў за грыбамі і заблудзіўся, на Пастаўшчыне таксама памёр у лесе мужчына 50 год.

**Баравуха.** На базе аграсядзібы "Славяначка" прайшоў на працягу двух дзён абласны злёт аграэкатурызму з выставай-ярмаркай лепшых аб'ектаў сельскага турызму Віцебшчыны.

**Лосвіда.** На мясцовым возеры супрацоўнікі выратавальнай станцыі паспелі выратаваць падчас дзяжурства ад гібелі п'янага рыбака, які перакуліўся на гумавай лодцы.

**Лепель.** У мясцовым гарадскім парку прайшоў першы фестываль беларускай міфалогіі "У госці да лепельскага Цмока", яшчэ адзін помнік цмоку адкрылі ля будынка райгаза.

**Талачын.** Днём суседзі выратавалі ад гібелі на пажары 87-гадовую жанчыну, якая пакінула без нагляду дома посуд на ўключанай электрапліце і атравілася дымам.

**Полацк.** У прыроднаэкалагічным музеі адкрылася фотавыстава А. Эрдмана "Прыроды цудныя імгненні", а ў суседнім Наваполацку – выстава васкавых фігур "Кола гісторы".

**Шаркаўшчына.** Мясцовы пісьменнік Міледзій Кукуць стаў пераможцам нацыянальнага конкурсу за лепшы твор прозы 2013 года за сваю аповесць "На сёмым небе".

**Гарадок.** У аўральным рэжыме на ўрочышчы Вараб'ёвы горы ля райцэнтра пачалі будаваць лыжаролерную трасу, вакол яе высеклі лес, заасфальтавалі дарогу да возера.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

■ Уладзімір Скрабатун

# Люцыд Корсак схіліў Валентыя Брахоцкага ўзначаліць паўстанне 1831 г у Дзісенскім павеце

“... Узброеных ваяроў было ўсё ж не вельмі шмат, а таму, каб псіхалагічна ўздзейнічаць на праціўніка, палкоўнік В. Брахоцкі прывёў у Германовічы, відаць, усіх, каго можна было прывесці з Лужкоў і навакольных вёсак, нават музыкаў, каб падбадзёрыць паўстанцаў ісці ў атаку на Дзісну. Аднак больш карысці, відаць, было ад артылерыі: “Рыпінскі як артылерыст здаў свой аддзел некаму іншаму і стаў камандаваць гэтай аднаконнай батарэяй, кананірам служыў яму шавец Ардынскі. Праўдзівая прыказка: у патрэбе і шылам голяцца”. Зрабіўшы колькі залпаў па Дзісне, А. Рыпінскі падахвоціў паўстанцаў на штурм горада. Сяляне, ухапіўшы калы, разам са шляхтаю атакавалі расійскае войска: ***“Калі Бог дапаможаць, так мы і гэтым паб’ём праклятых маскалёў”.***

Расійскае войска, кінуўшы ўсю сваю амуніцыю, спешна адступіла з Дзісны. Паўстанцы цешыліся перамогай, асабліва задаволеныя былі сяляне: ***“Гура! Наша ўзяло! Маскаль прапаў!”***

*Паводле ўспамінаў Аляксандра Рыпінскага, беларускага паэта, удзельніка паўстання 1831 г.*



**Надмагільны помнік Люцыду і Фрацішцы Корсакам у Удзеле на старым цвінтары.**

Не дужа ўдаваючыся ў гісторыю паўстання 1831 года ў нашым краі, адзначым толькі тое, што яго кіраўніком быў вядомы жыхар Браслаўскага павету Валенты Брахоцкі, які на тым часе ўжо жыў у Глыбокім. Мястэчка Лужкі, разам з Варшавай і Вільняй, было адной з трох сталіцаў паўстання 1831 г.

Спадарства, а Вы ведаеце, хто пераканаў і схіліў палкоўніка Брахоцкага ўзначаліць паўстанне? Так! Таму, што прачыталі загаловак?

Аднак, аб гэтым, пазней...

На святкаванні 500-х угодкаў Мосара, на прыкасцельным пляцы, да аўтара гэтых радкоў падышла нашая чытачка Ганна Адамаўна Глембоцкая. Пытае: “*Уладзімір Іванавіч, а вы ведаеце, што ў Удзеле, за касцёлам, ёсць цвінтар?*”

– Не.

– *Там пахаваны Люцыд Корсак. Хто ён такі? Можа ведаеце?*

– Так адразу – не скажу. Ведаю, што была не толькі глыбоцкая лінія Корсакаў, але і бабыніцкая, галубіцкая, залеская, а таксама ўдзельская. Удзельскі касцёл пабудаваны па фундацыі Язэпа Корсака, але не Язэпа Львовіча Корсака, а Язэпа Рыгоравіча Корсака... Ва ўсякім разе – дзякуй! Пры нагодзе наведаю могілкі, а пасля гэтага можна і заняцца высвятленнем асобы Люцыда Корсака.

***

Так! На старым цвінтары мы знайшлі некалькі даўніх пахаванняў.

Чытаем надпісы: “Kazimierz Wrublewicz”; “Jan Obolewski zm. 15 czerw. 1888 r żył lat 57”...

Помнік Яну Абалеўскаму, праўдападобна, разбамбілі некалі “камсамольцы”. Гэты факт, а таксама прыкметы іншых знішчаных старадаўніх помнікаў наводзіць на думку, што такіх шляхецкіх пахаванняў тут раней было нямала.

А вось ён і шуканы помнік Люцыду Корсаку. Чытаем:

S.P.
Lucyd i Franciszka
KORSAKOWIE
Wiecznie odpocznienie
racz Im dać Panie
Pomiątka najlepszym
Dzidam

Быў яшчэ драбнейшы тэкст у самым нізе, але, каб яго прачытаць, – трэба ўжо класціся галавой на магілу. Не! Ужо не істотна. Там няма датаў жыцця і смерці...

І што вынікае з тэксту? Помнік паставілі ўнук(і), напісана ж: “Памятка найлепшым Дзядам”. З тэксту не вынікае: колькі пражылі Дзяды (дзядуля і бабуля), калі нарадзіліся і памерлі. Унук(і) маглі паставіць помнік і праз 50 гадоў пасля смерці Дзядоў. Даты жыцця і смерці яны не памяталі (не ведалі)?

Годзе. Хто такі Люцыд Корсак?

Ці мог хто з краязнаўцаў падумаць яшчэ 20 гадоў таму, што пошук зойме ўсяго **секундаў** пяць! Так, многія кнігі і дакументы цяпер адлічбаваныя, г.зн. камп’ютар знойдзе, калі гэтае імя занатавана ў “сусветнай павуціне”.

Люцыд Корсак (Lucyd Korsak) сустракаецца аднойчы і ў звязку з паўстаннем 1831 года. Аляксандр Рыпінскі, беларускі паэт і ўдзельнік паўстання 1831 года на эміграцыі ў Францыі, у г. Авіньёне, напісаў успаміны пад назовам ***“Krótki Rys Historyi Powstania Dziśnieńskiego w Litwie, w Gubernii Mińskiej, napisany w Avignon, przez Alexandra Rypińskiego, podporucznika Pułku 7-o piechoty Liniowej Polskiej”.***

Працытуем пару абзацаў у перакладзе на беларускую (захаваная стылістыка дакумента 1830-х гг):

“... Калі так усё ўжо было ў парадку, не ставала толькі Галоўнага Камандуючага, які б з веданнем вайскавага мастацтва, злучаў у сабе сталасць узросту і давер жыхароў цэлага павету. Доўга раіліся, каго б абраць. Пасылалі Язэпа Валасоўскага і Міхала Клёта да пана Плятэра ў Бяльмонт, просячы яго аб прыманні такой годнасці, але той адмовіў, не можа ніякім чынам выехаць з дому, з-пад вока і стражы расійскага палкоўніка Кахоўскага, які тут пад бокам у яго, у Відзах, стаў з непрыяцельскім войскам, і ўсялякія варушэнні жыхароў адсочваў, і хапаў усіх за дробнае падазрэнне, адсылаў іх да Дынабурга (цяпер Даўгаўпілс – *заў. рэд.*) у казематы, без суда і следства. Пасылалі некалькі разоў **Люцыда Корсака** ў Глыбокае, прасіць палкоўніка Брахоцкага, але той акрамя найлепшых сваіх памкненняў служыць Айчыне ў такім пахвальным і канчатковым разе, адмаўляў тым, што ўжо быў запрошаны ў Вілейку, і паўтараў, што мае вельмі малыя стасункі і знаёмствы з жыхарамі Дзісенскага павету, як нядаўна аселы ў Глыбокім, можа быць не заслужыў даверу ўсіх. Калі яго аднак пераканалі, што не толькі з поўным даверам яго просяць, але зразумела, што абавязкова ўскладаюць надзею, на моцныя наляганні з усіх бакоў, прыбыў пасля паўторнага да яго прыезду **Корсака**, да Лужак, агледзіў цэлы шэраг падхарунжых, і спадабаўшы сябе ў ім, застаўся ў Лужках, хаця ўжо быў у дарозе, з якой яго вярнулі. Прысягнуў на вернасць Айчыне і справе Паўстання, стаўся абвешчаным Галоўным Камандуючым ўзброенай сілы ўсяго Дзісенскага павету.

Прызначыў сабе ў начальнікі штаба падхарунжага Аляксандра Пангоўскага, а ад’ютантам грамадзяніна Ігнацыя Клёта, гэты старца годна адпавядаў мэтам і спадзевам, якія ў ім увасобленыя, не шкадаваў слабых сіл сваіх, здароўя і маёнтка для дабра Народу і Айчыне”.



ZBIÓR
PAMIĘTNIKÓW
O POWSTANIU LITWY
w r. 1831.
FELIXA WROTNOWSKIEGO.
PARYŻ.
W KSIĘGARNI POLSKIEJ.
PRZY ULICY DES MARAIS-S.-GERMAIN, N. 17 bis.
1835.

Кніга Фелікса Уратноўскага **“Zbiór pamiętników o powstaniu Litwy w r. 1831”,** Paryż 1835 г, у якой скарыстаныя ўспаміны Аляксандра Рыпінскага.

Так! Менавіта Люцыд Корсак, з другой спробы, схіліў палкоўніка Валентыя Брахоцкага ўзначаліць паўстанне 1831 года ў Дзісенскім павеце. Які далейшы лёс Люцыда Корсака – мы не ведаем. Адназначна толькі тое – ён сыграў сваю ролю ў лёсе паўстання1831 года ў нашым краі.

***

Можна было б паставіць кропку ў пытанні: хто такі Люцыд Корсак, які пахаваны на старым цвінтары ў Удзеле? Але... Датаў жыцця і смерці на помніку няма! Ці той гэта Люцыд Корсак, які схіліў Валентыя Брахоцкага ўзначаліць паўстанне 1831 г? Былі ж два Язэпы Корсакі! Розныя! І абодва будавалі храмы – адзін у Удзеле, іншы ў Глыбокім. Каб жа ж і тут не выйшла памылкі!

Ёсць адна прыкметная акалічнасць. На яе звярнуў маю ўвагу Алесь Адамковіч з Вільні, з якім я па *Скайпу* падзяліўся навіной аб знаходцы.

– *Стылістыка надпісу на помніку і стылістыка самога помніка не адпавядае стылістыцы сярэдзіны XIX ст,*– кажа Алесь,– *а адпавядае ўжо пачатку XX ст.*

Так! Пагаджаюся, і гэта відавочна – помнік выглядае досыць навюткім. Аднак, помнік Люцыду і Францішцы маглі паставіць унукі за “польскім часам” у 1920-30 гг і гэтым Люцыдам Корсакам мог быць менавіта той Люцыд Корсак, што схіліў Валентыя Брахоцкага ўзначаліць паўстанне 1831 года ў Дзісенскім павеце. Хацелася б верыць, што гэта так і ёсць, для гэтага маюцца не малыя падставы.

***

Натуральна, пошукі можна працягваць: спраўдзіць касцельныя кнігі, віленскія архівы, розныя даведнікі, дзе згадваюццаземлеўладальнікі. Але гэта ўжо, перадусім, пажаданне для мясцовай удзельскай інтэлігенцыі і краязнаўцам.

■ Уладзімір Скрабатун

# Францішак Аляшкевіч, удзельскі пробашч выступаў за шырокае ўвядзенне беларускай мовы ў касцёлах

**Шмат хто перакананы, што беларускамоўныя набажэнствы ў нашых касцёлах былі ўведзеныя толькі ў часы незалежнай Беларусі. Між тым, беларускамоўныя набажэнствы адбываліся ўжо і ў перадрэвалюцыйныя часы, а таксама ў часы нямецкай акупацыі... Сярод тых, хто рабіў намаганні ў гэтым кірунку быў Францішак Аляшкевіч, колішні пробашч касцёла ў Удзеле.**



**ФРАНЦІШАК АЛЯШКЕВІЧ**
(1889-1943)
Каталіцкі святар заходняга абраду, дзеяч беларускага хрысціянскага руху XX ст., душпастыр.

Францішак Аляшкевіч (1889-1943) нарадзіўся 4.10.1889 у в. Дзядолайці Ашмянскага павета Віленскай губ. Паходзіў з сялянскай сям’і: бацькі — Язэп і Марыяна (з дому Каспяровічаў) Аляшкевічы. У кнізе метрык Сольскага касцёла прозвішча Аляшкевіч запісана як Аляхновіч. Паводле пашпарта і рэвізскіх казак — Аляшкевіч, У іншых дакументах — Ляшкевіч. У маі 1907 г. вытрымаў экзамен на званне аптэкарскага вучня пры экзаменацыйнай камісіі Маскоўскай навучальнай акругі. У 1909-1914 гг. вучыўся ў Віленскай духоўнай каталіцкай семінарыі. На правах сябра ўваходзіў у беларускі гурток студэнтаў семінарыі. Пасвячоны ў святары ў 1914 г. Душпастырскую дзейнасць распачаў у тым жа годзе. Працаваў у парафіях Віленскай дыяцэзіі (м. Канстанцінаў Надвілейскага дэканата), пробашчам у вёсцы Удзела Глыбоцкага дэканата (1917-1939). Удзельнічаў у працы 1-га з’езда беларускіх каталіцкіх святароў у Мінску (24-25.5.1917). Сябра саюза ксяндзоў-беларусаў. Матэрыяльна падтрымліваў беларускія каталіцкія перыядычныя выданні («Kryniсa», «Chryscijanskaja Dumka»). У ліку 15 святароў ад імя беларускага каталіцкага духавенства Заходняй Беларусі падпісаў мемарыял, прадстаўлены 19.5.1925 на агульнапольскай канферэнцыі біскупаў. Выступаў за шырокае ўвядзенне беларускай мовы ў дадатковых набажэнствах на заходнебеларускіх абшарах. Звяртаўся да вернікаў з казаннямі на беларускай мове. Прыхільнік Беларускай хрысціянскай дэмакратыі. Памёр у 1943 г.

**Крыніцы:**

*LMABRS, ф. 318, каталог «А»;*
*Directorium... Vilnensi;*
*Elenchus... Vilnensis;*
*Catalogus... Vilnensis;*
*Усходняя Беларусь;*
*Kryniсa (Вільня). 1920. № 12;*
*Stankiewicz A., 1929;*
*Stankievic A., 1939;*
*Spis kosciolow, 1973; 1979.*

МІКАЛАЙ АНІШЧУК

# Пенсійная рэформа: як дапамагчы беларусам нябедна сустрэць старасць

**Якая пенсійная сістэма дазволіць кожнаму беларускаму пенсіянеру атрымліваць штомесяц на рукі тысячу даляраў — пра гэта эканаміст, кіраўнік навукова-даследчага цэнтра Мізеса, выканаўчы дырэктар АЦ «Стратэгія» Яраслаў Раманчук.**


Яраслаў Раманчук

**– Яраслаў, ёсць такі сумны жарт: «добры беларус – гэта той, хто спраўна плаціць усе падаткі, правільна галасуе і памірае ў дзень выйсця на пенсію»...**

– Такая канцэпцыя – мара дзяржавы, паколькі вызваляе яго ад галаўнога болю. З іншага боку – наўрад ці з ёй пагодзяцца мільёны пенсіянераў і тых хто цяпер працуе, якім хацелася б мець сістэму, якая гарантуе вызначаны ўзровень дастатку пасля выйсця на пенсію.

Дзяржаўная размеркавальная пенсійная сістэма – гэта наогул сістэма зману. Ты плаціш падаткі, а пасля выйсця на пенсію табе абяцаюць нейкія грашовыя выплаты.

Прычым падаткі – гэта не толькі тыя 34% і 1% адлічэннаў у Фонд сацыяльнай абароны, якія плаціць, адпаведна, працадаўца і працаўнік. Падаткі закладзеныя і ў коштах на тавары. Іх, у канчатковым выніку, плаціць усе.

Калі б пры існай у нас сістэме на аднаго пенсіянера даводзілася сто працоўных, то сітуацыя была б памяркоўнай. Але сёння суадносіны ў нас – 1,6 працоўных на кожнага пенсіянера. А да 2020-2025 года кожнаму працоўнаму прыйдзецца карміць сябе і адлічваць на ўтрыманне аднаго пенсіянера.

Пры гэтым беларусы ўсё жыццё робяць адлічэнні, нібы на сваю пенсію. Але яго пенсійных грошай няма, яны нідзе не назапашваюцца. Дзяржава ўсё ўжо праела.

З якой прыбытковасцю працуе дзяржаўны пенсійны фонд? Плюс адзін адсотак? Плюс два? Не. Мінус пятнаццаць-дваццаць адсоткаў. Таму што гэтыя грошы накіроўваюцца на бягучае спажыванне дзяржавы.

**– А потым прадстаўнікі той жа дзяржавы кажуць, што ў сітуацыі, якая склалася, застаецца толькі павялічваць пенсійны ўзрост. Такая прапанова гучыць перыядычна з розных паверхаў уладнай піраміды.**

– Калі не змяняць фундаментальных правілаў, то выйсці два: павялічваць узрост выйсця на пенсію ці скарачаць памер выплат. Хоць куды ўжо скарачаць – і так парадку 65% сваіх пенсій людзі марнуюць на харчаванне.

Ну, можна ліквідаваць льготы для тых, хто выходзіць сёння на пенсію пасля 20 гадоў працы – для шахцёраў, вайскоўцаў, працаўнікоў МУС. І тое, і другое, і трэцяе – рашэнні непапулярныя. А іншых вось варыянтаў няма.

Можна змяніць саму формулу разліку пенсіі. Спачатку пенсію налічалі зыходзячы з заробку за апошнія пяць гадоў працы. Потым — за дзесяць. Можна ўзяць перыяд у дваццаць гадоў, прычым лічыць так, каб было выгадна Фонду сацабароны, а не самаму чалавеку. Але і гэта асабліва сітуацыю не паправіць.

Незалежна ад таго, колькі беларус сёння адлічвае падаткаў, памер яго пенсіі будзе вызначацца бягучай сітуацыяй на момант яго выйсця на пенсію: ад таго, як будзе працаваць эканоміка, будзе яна расці ці валіцца, якая будзе дэмаграфічная сітуацыя.

**– Гэта значыць ад таго, на што ўплываць я ніяк і не магу…**

– Не можаш. Але з такой дэмаграфічнай сітуацыяй, як у нас, добрай пенсіі пры цяперашняй сістэме і быць не можа. Так што будзем мы з табой атрымліваць свае 200-250 даляраў. У лепшым выпадку.

Дзяржава, зразумелая справа, асцерагаецца пачынаць чысціць гэтыя пенсійныя «аўгіевы стайні», таму як Бог яго ведае, што адтуль пасыплецца.

**– Ну а калі ўсё ж пачаць разграбаць? Якое ёсць выйсце пры ўмове, што ўлічваць трэба гэтулькі негатыўных фактараў – і дэмаграфічную сітуацыю, і агульны стан эканомікі?**

– У Беларусі не атрымаецца зрабіць рэформу, проста скапіяваўшы якую б там ні было сістэму – нямецкую, польскую. Чаму? Таму што ў гэтых сістэмах ёсць абмежаванні. Дапусцім, у Польшчы пенсійныя грошы па законе можна інвеставаць толькі ў нацыянальную эканоміку, у дзяржаўныя каштоўныя паперы. У выніку адбываецца штучнае надзіманне фондавага рынку.

Што рабіць нам? Папершае, трэба адшукаць рэзервы на выплату пенсій цяперашнім пенсіянерам. Іх каля 2,6 мільёна чалавек, і трэба нам для гэтага парадку 7 мільярдаў даляраў у год. Падыход тут просты – ліквідаваць Фонд сацабароны як незалежную структуру і перавесці пенсійныя выплаты ў разрад несеквестуемых, г. зн. нескарачаемых выдаткаў рэспубліканскага бюджэту. Грошы на выплату пенсій будуць ісці з агульных паступленняў у бюджэт. Павялічваць падаткі на зарплату далей няма куды, паколькі яны — істотная перашкода для развіцця бізнэсу, эканамічнай актыўнасці.

Пенсіянеры атрымліваюць грошы з бюджэту. Бюджэт у нас – 31 мільярд даляраў, і знайсці там 7 мільярдаў для пенсіянераў – не вялікая праблема. Спосабы дастаўкі гэтых грошай могуць быць простыя – скажам, нейкі пенсійны дэпартамент проста механічна рассылае сродкі на рахункі пенсіянераў ці пералічвае іх праз пошту. Так што цяперашнія пенсіянеры будуць атрымліваць пенсію з «агульнага катла», і гэта будзе справядліва. Пры гэтым мы памяншаем падаткі на зарплату і не павялічваем пенсійны ўзрост.

Другое – запуск сапраўднай назапашвальнай пенсійнай сістэмы. Важны нюанс тут – магчымасць абраць аператара, які будзе займацца тваімі грашыма. Грошы збіраюцца ў пул, праводзіцца конкурс на тое, хто гэтымі сродкамі будзе кіраваць – гэта можа быць і беларуская кампанія, калі ў яе ёсць неабходны досвед, і замежная. Вызначаюцца выдаткі на адміністраванне сістэмы – адсотак ці два, дапушчальны. Вызначаецца прыбытковасць, спосаб кіравання рызыкамі – нельга, скажам, укладваць больш 15% ад агульнай сумы ў адзін інструмент на пэўным фінансавым рынку. Гэта значыць прадугледжваецца дыверсіфікаванне па інструментах, па надзейнасці інвестыцыйнага рэйтынгу папер. У астатнім – свабода дзеянняў.

Чалавек, якому да пенсіі застаецца 10-15 гадоў, можа адкрыць рахунак у такім пенсійным фондзе і адлічваць туды частку зарплаты. Для такой катэгорыі людзей – гэта добраахвотнае рашэнне.

Колькі адлічваць? Гэта можа быць 10% ад зарплаты, як у Чылі. У некаторых іншых краінах – 8%.Чалавек атрымлівае індывідуальны назапашвальны рахунак, які перадаецца ў спадчыну, што вельмі важна.

А вось для тых, хто толькі пачынае працаваць, такія адлічэнні варта ўжо зрабіць абавязковымі.

Пры гэтым хай будзе мінімальная дзяржаўная пенсія. Толькі таму, што ты – грамадзянін Беларусі. Усё, што звыш – зарабляеш сам. Ты вольны выбіраць упраўляючую кампанію. Кампанія гэта, заўважым, не ўладальнік грошай, гэта значыць рызыкі, што яна забірае сродкі і ўцякае, выключаныя. Дзяржава толькі сочыць за працай упраўляючых кампаній праз наглядную структуру. Ці кампаніі, калі мы вырашым, што для нашай краіны досыць адной упраўляючай структуры.

У Чылі сярэдняя прыбытковасць за 30 гадоў была парадку 9%. Гэта значыць пасля 20 гадоў знаходжання ў прыватнай пенсійнай сістэме людзі атрымаюць суму адсоткаў, якая перавышае суму штогадовага ўнёску. Такую рэформу рэальна правесці за 25 гадоў. Але каб пенсійная сістэма зарабіла, у краіне павінен дзейнічаць паўнавартасны фінансавы рынак.

**– Наколькі рэальна не страціць гэтыя зберажэнні пры нашай інфляцыі?**

– У дзяржавы ў асобе ўрада, Мінфіна, Нацбанка які клопат? Стабільнасць бюджэту, адсутнасць адтоку капіталу, аплатны баланс. Для іх гэта – задача нумар адзін.

А задача пенсійных грошай – быць у захаванасці і прырастаць.

Усё залежыць ад таго, якую задачу мы лічым прыярытэтнай. Калі другую, то пенсійны фонд (ці фонды) павінен мець права кіраваць грашыма на сусветным рынку. Так мы пазбаўляемся ад рызык інфляцыі, дэвальвацыі. Грошы ж – не ў беларускіх рублях. А ўкладзеныя ў акцыі паспяховых кампаній, такіх як Google, Twitter, у іншыя паспяховыя праекты. Пенсійныя зберажэнні – гэта грошы людзей, а не грошы дзяржавы. Амаральна ўводзіць абмежаванні на іх адток з краіны.

**– Нам запярэчаць: так беларуская эканоміка, маўляў, губляе кучу грошай. А гэта ж маглі быць інвестыцыі ў айчынную вытворчасць....**

– Гэта зноў пункт гледжання ўрада. Але ёсць права ўласнасці чалавека. І яго нельга парушаць. Чалавек можа сам абраць – укладваць яму ў беларускую эканоміку ці не. Людзі нарэшце ж стануць фінансава граматнымі, паколькі ў гэтым будзе рэальная неабходнасць. А беларускія прадпрыемствы зразумеюць, што ёсць магчымасць атрымаць «доўгія» грошы – бо сродкі пенсійных фондаў – гэта «доўгія грошы». Хай імкнуцца іх прыцягнуць, даюць добрыя адсоткі, удзельнічаюць у працы фінансавага рынку на агульных падставах.

**– Людзі любяць лічбы. Ці можна падлічыць – колькі беларускі пенсіянер меў бы ў месяц пры такой пенсійнай сістэме? Каб параўнаць з цяперашнімі сумамі і ацаніць, скажам так, згубленую выгаду?**

– Вельмі проста падлічыць. Гэта чыстая арыфметыка. Калі б наша пенсійная сістэма была такой, як, дапусцім, у Чылі, то пры выйсці на пенсію ў чалавека было б на рахунку каля 120 тысяч даляраў у ліквідных паперах. У дамове напісана – ты атрымліваеш, скажам, 30 тысяч даляраў аднамаментна, а далей, у залежнасці ад працягласці жыцця, кожны месяц – вызначаную суму. Прычым грошы тым часам працягваюць працаваць. У сярэднім кожны пенсіянер атрымліваў бы на рукі каля 1 тысячы даляраў кожны месяц .

**Даведка «Заўтра тваёй краіны»**

Як паказалі дадзеныя нацыянальнага апытання насельніцтва, які ў рамках праекта «Рэфорум» па замове Беларускага інстытута стратэгічных даследаванняў (BISS) правяла ў сакавіку - красавіку 2014 г. кампанія «Сатио» (апытана 1.350 чалавек ад 16 гадоў і старэй), сацыяльнае забеспячэнне ўслед за аховай здароўя лічыцца ў беларускім грамадстве прыярытэтнай сферай рэформаў.

У большасці выпадкаў (55,3% адказаў) беларусы гатовыя былі б трываць негатыўныя наступствы рэформаў на працягу 5-7 гадоў дзеля дабрабыту сваіх дзяцей у будучыні, хоць і на высокі ўзровень жыцця асабіста для сябе таксама шматлікія разлічваюць (47,8%).




# Тыя, хто не хацеў вучыць украінскую мову ва Украіне, вучаць цяпер башкірскую ў Расіі

**Жыхары Данецка і Луганска ўжо вучаць у Расіі мовы нацыянальных меншасцяў.**

Многія жыхары Данбаса скардзіліся, што ім цяжка вучыць і разумець украінскую мову. У Данецку і Луганску праходзілі нават акцыі супраць «украінізацыі». Пасля пачатку баявых дзеянняў на ўсходзе Украіны некаторыя жыхары Данецка і Луганска падаліся на ўцёкі. Расія іх прыняла і рассяліла ў розных аўтаномных рэспубліках, піша *InfoResist*.

Цяпер тыя, хто не хацеў вучыць украінскую, а таксама іх дзеці, вучаць бурацкую, адыгейскую, башкірскую і іншыя мовы шматнацыянальнай Расіі. Так належыць па закону.

*«Гэта фатаграфіі чытанкі. Для першакласнікаў. Ну і для дзяцей луганскіх эмігрантаў, якія першага верасня пашлі ў школу. Фота зроблена адной з уцякачак з Краснадона. Не, ну ўсё тут зразумела...амаль...Тхыбзэ!»*- піша выданне і цікавіцца, ці будуць уцекачы пратэставаць супраць вывучэння моў нацменшасцяў у Расіі.





